**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня, 15 кастрычніка, 1922 г. № 7.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

3

**Тыднёвая Народная Газэтка**

**Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.**

Цана нумару 30 марак
Газэтка каштуе з паштовай перасылкай, ў месяц 150 марак.
Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.

Абвесткі:

| | |
|---|---|
| Цэлая старонка | 10.000 мк. |
| ½ старонкі | 5.000 „ |
| ¼ „ | 3.000 „ |
| Дробныя абвесткі за радок | па 100 „ |

*Кіраўнік Рэдакцыі: ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Бальлін, В. Шакун, Б. Ігнатовіч, П. Гайка, Я. Драздовіч. М. Дварэцкі, А. Шапель.*

**Зьвяртацца па гэткіх адрэсох па легітымацыі для мужоу давернасьці і па нумаркі „Вызваленьня“:**

3

**Адрэсы Акружных Выбарчых Камітэтау**

**У Вільні — Мастовая вул., 1.**
**„ Лідзе — Крывая вул., 18.**
**У Сьвянцянах — Віленская вул., 23.**
**„ Наваградку—Сеняжыцкая вул., 1.**

Адрэсы павятовых **Адзелау „Вызваленьня“:**

Браслау, вул. Пілсудзкага 6.
Сьвір, Рынак.
Глыбокае, Ломжынская 1.
Дзісна, алеі Панятоускага 43.
Дуніловічы, Ясьнеуская 22.
Баложын, Новоминская вул. 22.
Іуя, Віленская вул. 95.
Новыя Баранавічы, Жлобінская 1.
Слонім, Гандлёвая 25.

140080

## Вызваленцы!

У прошлым (6) нумары мы запрашалі Вас на Вялікі Зьезд-Конгрэс на 29 кастрычніка. Але таму, што кожны дзельны вызваленец у той апошні перад выбарамі тыдзень найбольш прынясе карысьці дзеля народнае справы, агітуючы у сябе за нашу 3 (тройку) і кантралюючы, ці усе маюць нашыя нумаркі (3), Галоуная Управа пастанавіла Зьезд-Конгрэс адлажыць на пасьля.

Дык працуйце да канца выбарау у вашай ваколіцы і дасьць Бог выграем выбары!

## Увага!

Ці маеце у сваім абводзе мужа давернасьці ад „Вызваленьня“. Калі не — дык выберце найэнэргічнейшага народніка-вызваленца й напішэце да нас, альбо да найбліжэйшага сэкрэтарыяту „Вызваленьня“ і будуць высланы поунамоцтвы для мужоу давернасьці.

3

## Усе проці „Вызваленьня“!

Яшчэ некалькі тыдняў назад нікога ня цікавіла, што робіцца на вёсцы, як там жывуць людзі, хто іх крыўдзіць. Нікому ня прыйшло да галавы бараніць працоўны народ ад гвалтаў адміністрацыі, ад эксплёатацыі абшарніка-капіталістага, ніхто не друкаваў газэткі, не пасылаў інструктароў і агітатараў, ніхто не арганізоўваў сялян дзеля абароны ад ворагаў народу. Толькі „Вызваленьне“ не змарнавала ні мінюты. Цэлы час заклікала да арганізацыі цэлы час баролася з бізуном і прыкладам, цэлы час за зьбіраныя з вялікім трудом сялянскія грошы друкавала хоць маленькую, але штотыдня газэтку, ў якой кожны мог пажаліцца на несправядлівасьць, у якой кожны знаходзіў абарону. Нашыя вызваленцы часта галодныя й бяз ботаў езьдзілі ад вёскі да вёскі й арганізоўвалі народ. І хаця нас прасьледавала паліцыя, хаця канфіскавалі нашую газэтку, хаця аддавалі нас пад суд, мы працы не перарывалі, нічога не баяліся - ішлі проста да мэты, да барацьбы за зямлю, справядлівасьць і ўладу для народу рабочага. І тады, трэба сказаць праўду, ніякая іншая партыя (апрача панскіх) не перашкаджала нам, усе хвалілі нас. Асабліва папрыяцельску адносіліся да нас беларускія дзеячы, хвалілі нас у сваёй газэце „Беларускі Звон“, радзілі сваім знаёмым уступаць у нашае „Вызваленьне“ і самі памагалі нам.

3

Але надыйшлі выбары. Тады ўсе спомнілі аб народзе, аб яго нядолі й аб яго... галасох. Тады ўсе пачалі друкаваць газэты й адозвы да народу, пачалі езьдзіць на вёскі й расхвальваць сябе. Але на вёсцы ўсюды ўжо людзі казалі: „Хай жыве „Вызваленьне“! Нікога нам больш ня трэба“!

3

Памятаеце, браточкі, як мы вас папераджалі, што прыдзе час, калі ўсе проці нас выступяць, што аб'яднаюцца ксёндз з панам, ксёндз з купцом і капіталістым жыдоўскім, вураднік з „кулаком“, каб адзіную праўдзівую пролетарскую, народную партыю на вёсцы не дапусьціць да голасу, да ўлады!

3

Гэтак і сталася! Вазьмеце вы цяпер у рукі якую-небудзь газэту ў Вільні, ці ў Варшаве, ці яшчэ дзе і прачытайце. Пабачыце, што толькі аб „Вызваленьні“ пішуць — пішуць паскудзтвы, ману, брахню й нябывалыя байкі! Няма гэткае подласьці, а ні гэткае выдуманае маны, якое-б нашыя ворагі, альбо нядаўнія прыяцелі на нас ня кінулі. Ведаюць яны, што праўдаю нас перамагчы нельга, дык маняць, бо думаюць, што люд ужо гэткі цёмны, што дасьць сябе яшчэ ашукаць!

І вось: нацыяналістыя і польскія й жыдоўскія і беларускія, раз пішуць, што мы бальшавікі, а другі раз, што мы абшарнікі. Адны пішуць, што мы проці колёністых, а другія, што мы падтрымліваем колёнізацыю (памагаем ім). На аднэй страніцы (ў „Звоне“, або ў „Кгупісу“) пішуць, што мы найбольшыя ворагі беларускага народу, а на другой страніцы пішуць, што ў Сойме яны будуць разам з намі ісьці й галасаваць, бо „Вызваленьне“ зьяўляецца адзінаю партыяю ў Польшчы, якая ня хоча гнёту іншых народаў,

Польскія панскія й „кулацкія“ партыі пішуць што некаторыя нашыя сябры толькі прыкідаюцца палякамі, што працуюць проці Польшчы, а беларускія, ці жыдоўскія нацыяналістычныя партыі пішуць, што мы, Вызваленцы, хочам згубы народу беларускага, ці украінскага.

А апрача таго нанятыя, падкупленыя агітатары вымуляюць брэдні й ману аб людзях якія працуюць у „Вызваленьні“: той абкраў касьцёл, той забіў сваяго бацьку, той, калі быў у войску, расстрэльваў людзей і гэтак далей і гэтак далей. Мана усё гэта й ніхто разумнейшы ўжо ў гэта ня верыць! Эндэкі ачарнялі ўсё жыцьцё Язэпа Пілсудскага —празывалі яго бандытам, падкупленым немцамі бальшавіком і г. д., а ён як быў вялікім чалавекам, так і застаўся, як быў каханым ў народу народным абаронцам, так і застаўся!

Баіцёся ўсе вы „Вызваленьня“! Вось чаму цяпер толькі з намі бораецеся Вы ведаеце, што наша партыя бедная, што мы ня можам навет найлепшым сябром нашым памагчы грашмі ў выбарчай працы, што ня можам навет прысляць у кожную вёску й валасьць „аратара“ — дык карыстаеце з гэтага і праз св іх агітатараў ды праз цэлыя пуды газэтаў ды адозваў чмуціцё народу галавы.

Але гэта ўсім вам не паможа! „Вызваленьне“ пераможа, бо працоўны народ годзі мае няволі, бяды і гвалту!

**С. Ваяводзкі.**

## Браты сяляне!

Пішаце да нас з усіх бакоў, каб мы прысылалі да вашых мясьцінаў прамоўцаў (аратараў), газэтку, адозвы, бо штораз больш прыяжджае да вас панскіх агітатараў, пястоўцаў-вітосоўцаў і іншых і штораз болей чмуцяць яны народ. А мы вам адказваем: перад усім бараняцеся самі, браты! Самі пільнуйцеся, каб вас не ашукалі! На самых сябе перад усім пакладайце надзею! На тое, каб высылаць да вас прамоўцаў (аратараў), на тое, каб, мінаючы пошту, на якой крадуць нашую газэтку, спэцыяльна высылаць вам нашу літаратуру, — нажаль, ня маем грошай! На тое, каб усюды быць, усюды дапільнаваць выбараў, патрэбны сягоньня мільёны, а нам ледзь-ледзь хапае грошай на газэтку. Бо мы не займаемся гандлем зямлёю, як гэта робяць спэкулянты-пястоўцы (№ 1), не бярэм грошай ад ураду, як гэта робяць Рады Людовыя (№ 6), не ўзялі мы мільёнаў а ні ад купцоў жыдоўскіх, а ні ад капіталістых нямецкіх, як гэта зрабілі некаторыя беларусы, злучаныя з жыдамі (№ 16).

Наша тройка (3) йдзе адна, аточаная ворагамі з усіх бакоў, так як точаны з усіх бакоў ворагамі працоўны народ. Наша тройка (3) ідзе на выбары бяз мільёнаў, так як бедным зьяўляецца эксплёатаваны працоўны народ. Проці нашае 3-кі выступае армія платных агітатараў панскіх, якія агітуюць за сваю 8 (восемку). Дык не чакайце, аж пакуль хто за вас зробіць. Самі бярэцеся да працы. Пакажэм паном ды наўпанкам, што й бяз мільёнаў, але затое з праўдаю „Вызваленьне“ пераможа!

Наш нумар 3, бо тры найважнейшыя рэчы мусіць здабыць народ: зямлю, прасьвету і ўладу!

## У абароне праўды.

З вялікім абурэньнем прачыталі мы ў „Кгупісу" артыкул кс. Станкевіча пад загалоўкам „Адказ пану С. Ваяводзкаму". Відочна запомніў кс. Станкевіч, што ён зьяўляецца духоўнікам, што пісаць маню—грэх, асабліва праз помсту, якая нязгодна з навукаю Хрыста.

А ў артыкуле сваём ксёндз напісаў ня толькі маню й ня толькі брахню, што пацьвярдзілі навет некторыя беларускія дзеячы, якія працуюць разам з ксяндзом. Перш за ўсё мана нібыто грам. Ваяводзкі зьяўляецца абшарнікам. Усе ведаюць, што меў ён у Лідзкім павеце 25 дзесяцін зямлі і тое зрокся на карысьць безьзямельных, бо лічыў, што толькі тыя павінны мець зямлю, хто на ёй сам працуе. Ці можна яго, ў гэткім выпадку, назваць абшарнікам? Вось-жа—зманіў ксёндз, а маніць—грэх! Таксама ксёндз ведаў, што гэты „абшарнік" ад 15 гадоў свайго веку працуе дзеля працоўнага народу і быў за гэта праследаваны. Пры царскай уладзе быў выслены з гімназіі ў Горадне, за тоешто рэдагаваў нелегальную соцыялістычную газэтку „Jutro", у Пецярбургу яго праськледавала паліцыя за тое, што належаў да рабочых арганізацыяў. Пры нямецкай окупацыі два разы сядзеў ў вастрозе, пасьля ўцёк на аўстрыяцкую окупацыю, дзе яго таксама пасадзілі ў вастрог за абарону працоўнага народу. Гэткіх абшарнікаў, дай нам Божа больш!

Таксама ведама, ці ён вораг, ці прыяцель народу беларускага. Хай аб гэтым скажа ня зводнік — кс. Станкевіч, але праўдзівыя тварцы беларускага руху і кіраўнікі левых партыяў: В. Іваноўскі, Луцкевіч, Трэпка, Грыб, Тарашкевіч і шмат-шмат іншых. Што быў ён афіцэрам — гэта праўда, але дай Божа больш гэткіх афіцэраў у кожнай арміі. Вось жа таму, што быў ён ведамы, як прыяцель беларускага руху, прыслаў яго ў Менск Начальнік Дзяржавы Язэп Пілсудскі дзеля абароны й падмогі беларускаму народу. Бязстыдна маніць кс. Станкевіч, калі піша, што не перашкаджаў ён арыштам беларускіх інструктароў. Якраз за тое, што бараніў іх, за тое, што змагаўся, як мог, з польскай дэфэнзывай, заўсёды пісалі на яго даносы ў Варшаву, аж R. O. P. (Rada Obrony Pańśtwa) пастанавіла арыштаваць яго й калі-б не Язэп Пілсудскі, які яго абараніў, сядзеў-бы грам. Ваяводзкі і ў польскім вастрозе.

Адзін раз толькі не перашкодзіў грам. Ваяводзкі арышту беларуса, але беларусам гэтым быў зьняслаўлены „жулік" Аляксюк.

Калі здэмобілізаваўся грам. Ваяводзкі дык уступіў у „Вызваленьне" і тут далей бараніў ня толькі тутэйшы працоўны народ, але й рух беларускі. Усім ведома, што гэта ён пісаў у лявіцовых газэтах прыяцельскія артыкулы аб беларусах што н каторыя артыкулы былі конфіскованы, дый цяпер пад судом грам. Ваяводзкі Найлепшым доказам, якім ёсьць „Вызваленьне" і грам. Ваяводзкі служыць факт, што самі беларусы, накуль не зрабілі блёку з нямецкімі й жыдоўскімі капіталістымі ды гандлярамі, хацелі ісьці на выбарах разам з „Вызваленьнем", як з праўдзівым саюзьнікам. Але не дапусьціў да гэтага ты, ксёндза, бо ты лічыш лепшым капіталістага хаця бы й жыдоўскага, чымся радыкальны кляса вы дзеяч грам. Ваяводзкі, які заўсёды будзе бароцца з клерыкалізмам і нацыяналізмам ці то польскім ці беларускім, ці літоўскім, ці жыдоўскім. Як яшчэ адзін доказ, кім ёсьць грам. Ваяводзкі — падаём факт, што калі мы, беларусы, пыталіся ў некаторых старых беларускіх дзеячоў, ці варта нам уваходзіць у „Вызваленьне", дык яны адказалі нам, што варта, бо там працуюць гэткія шчырыя прыяцялі беларусаў як Ваяводзкі. Мы ўвайшлі ў „Вызваленьне" й не шкадуем аб гэтым, бо сьвята верым, што не з нямецкімі й жыдоўскімі капіталістымі й купцамі, а з працоўным народам усяе Польшчы мы пакоцім на зямлю й задушым ксяндзоўска-панскую рэакцыю ў Польскай Дзяржаве. А тады й наша Бацькаўшчына - Беларусь будзе вольнаю й шчасьліваю!

**Ф. Галавач, Уладымер Шакун, Барыс Ігнатовіч, С. Бальлін.**

---

Трэбуйце у нашых сэкрэтарыятах друкованых нумаркоу (3). Калі дзе ня хопіць нумаркоу друкованых, дык на чыстым, белым кавалачку паперы пішэце: 3 — і гэта будзе важным.

---

## Якімі людзьмі карыстаюцца беларусы у сваёй выбарчай агітацыі.

У вол Райцы, Навагрудзкага павету прэзэсам выбарнага камітэту „Аб'яднанага Блёку Расейцаў, Немц ў Украінцаў, Жыдоў і Беларусаў" зьяўляецца нейкі Ганс (немец) верны слуга пана Юндзіла, камісар яго двара Сеняжыцы.

Гэты хітры чалавек стараецца ўсімі спосабамі разьбіць мужыцкую еднасьць і псуе работу „Вызваленьня". Нарэшце паставіў выдраць з „Вызваленьня" шчырага й адданага народнай справе працаўніка грам. Уладымера Альшэўскага, які зьяўляецца сэкрэтаром нашага гуртка ў Мацёшы.

Змусіў Валасную Раду, каб бяз веды і згоды грам. Альшэўскага выбраць гэтага апошняга сябром св йго Выбарнага Камітэту і гэтым самым адарваць яго ад працы дзеля дабра народу. Гэта яму не ўдалося. Бо грам. Альшэўскі на іх блёкавых паседжаньні хадзіць ня будзе, ня прыстане да іх, бо справы й арганізацыі сялянскай ня здрадзіць і клясовае сялянскае еднасьці таксама разьбіваць ня хоча.

Хапаецца п. Ганс і за іншыя спосабы тэрорызаваньня людзей: З падмогай пана свайго Юндзіла патрэбаваў ад Валасное Рады сьпісаньня ўсіх выбаршчыкаў і страшыць насяленьне, што даведаецца са сьпіскаў, хто будзе галасаваць за „Вызваленьне" і тым ад'імсьціць.

Ніхто тваіх „страхаў" і помсты не баіцца, п. Ганс! Ведаюць людзі, што гэта за зельле гэткі панскі лізунчык і ў чым інтарэсе можа працаваць. Ведаюць, што праз увесь свой век п. Ганс для народу нятолькі нічога добрага не зрабіў, але навет крыўдзіў гэты народ. Сяляне добра памятаюць, як гэта праз тваю подласьць лясьнік п. Юндзіла Васіль Сявец быў выкінены пасьля 38 гадоў працы без кавалка хлеба на старасьць. Гэткімі нягоднымі паступкамі запісаўся ты, пане Ганс у памяці народу і праз гэта ніхто табе ніколі ня верыць, ніхто за табой ня пойдзе і не збаіцца. Вызваленцы моцна стаяць пры сваёй шчырай, праўдзівай народнай партыі „Вызваленьні".

**Я. Рэліга.**

3

3

3

## Нашто вы гэтак нясумленна маніцё!

Што пан-эндэк маніць, дык гэта нас ня дзівіць; яны тры маюцца пры уладзе й маёнтках толькі маной ды ашуканствам.

Але вельмі дзіўна, калі маняць тыя, якія кажуць аб сабе, што хочуць ісьці з народам! Бо гэта ж ня толькі нячэсна, але вялікая дурната — маніць; не сягоньня, дык заўтра мана выйдзе на верх, а тады скажацца, што вы самі сабе нашкодзілі.

Гэтак, напрыклад, у нумары 25-тым „Беларускага Звону“ у двух месцах ёсьць мана аб тым, што вызваленцы езьдзяць агітаваць самаходамі! У Гудуцішках (Ашмянскі павет) меў мітынг вызваленец Шапель безьзямельны селянін з вёскі Масьленікі, а ні які-небудзь пан у самаходзе й жоўтых боціках. Няспрытная мана! Бо як прачытаюць у Гудуцішках вашую газэту, дык адразу скажуць, што вы манною борацеся!

## Зьезд у Вільні.

Зьезд з Віленска-Троцкага павету адбыўся ў Вільні, на Мастовай 1, дня 4 кастрычніка.

Так сама, як і ў Сьвянцянах, пачалася дыскусія, каго выбіраць і пастаноўлена выбраць аднаго інтэлігэнта—народніка й некалькі сялян з валасьцёў.

Пасол Хамінскі мандату ня прыняў, хаця яго прасіў аб гэтым войт Варнянскай валасьці, які казаў: „Мы ўмеем пазнаваць людзей, хоць на вас крычаць працаўнікі народу, што вы — абшарнік, але чаму, тады, ўсе паны называюць пасла Хамінскага „бальшавіком“ ды яшчэ горш— чаму гэта проці яго гэтак гавораць і гатовы ўтапіць у лыжцы вады? Мы знаем абшарніка ў нас у Варнянах Жыгімонта Хамінскага, ведаем, што гэта Ваш сваяк але ж гэтак сама ведаем, што Вы яго ня знаеце і знаць ня хочаце і што той Хамінскі Жыгімонт абшарнік праклінае Хамінскага Людзьвіка, пасла, за яго працу дзеля народу.“

На першае месца зьезд пастанавіў паставіць грам. Касьцялкоўскага, які даўно працаваў дзеля народу, даўней у гарадох дзеля работнікаў, а пасьля дзеля сялян. Ен—вайсковы, працаваў разам з Камэндантам Язэпам Пілсудскім, які вельмі цаніў яго—даволі, што сягоньня, ў маладым веку, ён маёрам Заўсёды стараўся з гары паправіць усе крыўды робленыя народу вайскам, не аднаго вызваліў з вастрогу й памагаў „Адраджэньню“, а пасьля „Вызваленьню“.

На другое месца пастаўлены Адамовіч які пройдзе са Сьвянцянаў, на трэцяе месца, якое сапраўды будзе другім,—кавеля Юркевіча з Варнян, далей Барткевіч з Нямэнчынскай вол сьці. Пятае месца пастаноўлена даць вучыцелю, каб паказаць, як гэта народ жадае прасьветы й добрых адносін з вучыцялямі. Дасталося гэтае месца вучыцельці Пашуттанцы, якую ўсе добра знаюць. Зьезд разьехаўся з задаваленьнем дамоў. **Тут.**

---

## Зьезд у Сьвянцянах.

4 кастрычніка сабраўся ў Сьвянцянах Акружны Зьезд „Вызваленьня“ дзеля выбарчага Сьвянцянскага вокругу.

Зьехаліся прадстаўнікі чатырох паветаў: Сьвянцянскага, Браслаўскага, Дзісьненскага й Дунілавіцкага. Агулам было 612 дэлегатаў. Нанятая саля на Лынтупскай вул. з трудом магла ўсіх зьмясьціць.

Гал ўную Управу прадстаўлялі прэзэс Хамінскі, віцэ-прэзэсы Галавач і Адамовіч, а таксама сэкрэтар Галка.

Паседжаньне пачаў пасол Людзьвік Хамінскі. — якога аднагалосна выбралі маршалкам Зьезду,—з выясьненьня гэтак важнага моманту ў жыцьці вясковага народу, як выбары ў Сойм і Сэнат, ад якіх залежыць далейшая будучына народу на 5 гадоў. Апрача таго пасол выясьніў стараньні „Вызваленьня“ ў Сойме дзеля арэндатараў ужыткоўнікаў, спыненьня колёнізацыі, уласьнікаў хаткаў на чужой зямлі і пацьвярджэньня прадажы.

З тым пачаліся гутаркі аб выбары кандыдатаў. Развязжалася тое, каго выбіраць у Сойм Ці сялян, добра вядомых у сваёй ваколіцы, ці інтэлігэнтаў (вучаных людзей), якія ўмелі б пісаць правы, працаваць у камісіях і кантраляваць урад. Усе прамоўцы, а было іх запісаных 14,— цьвярдзілі, што сяляне самі ў Сойме згінуць без паваздыроў.

Але што гэтых апошвіх трэба выбраць з людзей, якія сваею працаю даказалі, што знаюць край і людзей, што не баяцца рэакцыі, а працавалі для народу.

На прапазыцыі пасла Хамінскага, які гаварыў ад Галоўнае Управы ў Вільні і Варшаве, аднагалосна пастаноўлена, каб паставіць аднаго кандыдата ад Галоўнае Управы, а рэшту выбраць ад паветаў.

Гэткім кандыдатам ад Галоўнае Управы маглі быць пасол Хамінскі й гэнэральны сэкрэтар „Вызваленьня - Адраджэньня“ Галка.

На робленыя прапазыцыі пасол Хамінскі выясьніў, што ён сам шчыра дзякуе, але кандыдатуры ня прыме, бо ўжо мае запэўнены мандат, а запрапанаваў на гэтае месца грам. Галку.

Таму што ўсе вызваленцы добра знаюць грам. Галку на яго мітынгах у Браслаўлі, Сьвіры, Глыбокім і Дунілавічах, дый усе маглі няраз бачыць яго цяжкую й гэтак патрэбную працу ў Бюры „Вызваленьня - Адраджэньня“ ў Вільні на Мастовай—дык усе ахвотна згадзіліся на гэтага кандыдата і калі справа была галасована—тады грам. Галка адтрымаў усе галасы, апрача аднаго, і аднаго, што стрымаўся ад галасаваньня.

Пачалі называць прозьвішчы далейшых кандыдатаў, але кожны называў свайго кума, або прыяцеля, а разам аказалася 20 прозьвішчаў. Найчасьцей чуваць было: Адамовіч Сьвірбутовіч, Шапель, Пятроўскі

Тады пасол Хамінскі зрабіў пярэрву й запрапанаваў, каб кожны павет сабраўся асобна й выбраў ад сябе 2 х, ці 3-х кандыдатаў. Усе паветы згадзіліся хутка, толькі Дзісьненскі развяжаў на падворку больш як гадзіну, а калі вярнуўся—адна часьць паставіла Краўчонка, другая Драздовіча, а адна група вельмі хацела, каб быў кандыдатам грам. Гайка з Глыбокага.

*(Канец будзе).*

## Адказ ад Рэдакцыі

Грам. Я. Маркоўскаму. Не аднаго Вас эндэкі (8) стараліся надкупіць. Чэсны з Вас народнік, калі Вы не даліся спакусіцца на юдавы сярэбранікі! Нумаркоў нашых (3) Вам выслалі. Калі ня хоціць друкованых, дык можаце на белых картачках напісаць пяром: 3 — гэта таксама будзе важным

---

Рэдактар Выдавец **С. Ваяводзкі.** Друк. В еўскага у Вільні.